Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 40 | Пятніца, 31-га Кастрычніка 1924 г. | Год I.




Выходзіць тры разы ў тыдзень. | Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр.; у тэксьце — 10 гр.; на апош. стар. — 5 гр.

# Больш ініцыятывы.

Пры разрашаньні тых ці іншых бягучых задач нашага нацыянальнага жыцьця ўдача іх шмат залежыць ад нашае ўласнае ініцыятывы.

Сумная недалёкая мінуўшчына складала нашае жыцьцё так, што ініцыятыве народнай ня было месца. Дзеля ўсякага хуткага разрашэньня тае ці іншае чыста *земскае* справы патрэбны быў гучны вокрык паліцэйскага вурадніка, які быў прыстаўлены, як строгі апякун, да ўсіх народных інтарэсаў.

Старое пакаленьне нашае да гэткага палажэньня рэчаў прывыкла, бо мусела прывыкнуць, і шмат што яшчэ засталося ад гэтых старых прывычак.

Тое горшае, што засталося ад мінулага нявольніцтва, павінна быць намі адкінена, ў імя сваіх законных правоў мы павінны выступаць адважна, бо рабіць тое, што пазваляе закон, нам няма каго баяцца.

Цяпер у Польскай Рэспубліцы наша беларускае права выступаць са сваею роднаю моваю агульна прызнана, мы можам сьмела, бо маем на гэта права, дабівацца сваіх беларускіх школаў, паводлуг закону, паводлуг самае Канстытуцыі, гэта знач. грунтоўных законаў Польскае дзяржавы.

Даўней найвышэйшым фактарам у дзяржаўным жыцьці, напрыклад, царскае Расеі была самаўладная, неабмяжованая воля цароў. Цяпер у Польшчы найважнейшым фактарам гэтым зьяўляецца Канстытуцыя яе, якая устанаўляе нормы таго, як мае выяўляцца воля таго, хто зьяўляецца найвышэйшаю сілаю ў Рэспубліцы; гэтая сіла — ўвесь народ.

Мы — беларусы, як асобная нацыянальнасьць маем і свае асаблівасьці, якія таксама прадбачаецца Канстытуцыяй і якім гэта Канстытуцыя гарантуе іх разьвіцьцё.

Цару выгадней было трымаць народ у цемры, каб лягчэй было над ім панаваць, а Рэспубліцы, як дзяржаве, дзе правіць народ паводле Канстытуцыі, выгадней, каб народ быў разьвіты, прасьвечаны, моцны як у сваіх абавязках, так і ў сваіх правох.

У сівую мінуўшчыну вельмі часта бывала так, што моцны духам, хоць і меншы лікам, але вольны народ, заўсёды вытрымліваў націск вялізных барбарскіх ордаў. І рэспубліка заўсёды можа быць моцнай духам сваіх грамадзян. Чым болей чалавек прасьвечаны, тым болей ён сьвядомы ў сваіх грамадзкіх правох і ў сваіх абавязках датычна тае дзяржавы, якое ён зьяўляецца грамадзянінам.

Вось дзеля чаго ў Рэспубліцы ўсе стараюцца аб прасьвеце шырокіх народных масаў.

Вучоныя спэцыялістыя даказалі, што пачаткі прасьветы найлягчэй даюцца дзецям на іхняй роднай, матчынай мове.

Гэта прызнана й новымі законамі аб мовах нацыянальных меншасьцяў Польшчы ўлетку гэтага году.

На моцы гэтых законаў, праўда далёкіх ад поўнай дасканальнасьці, і мы маем паўнейшае права на свае беларускія школы.

Але ніхто за нас нашае справы рабіць ня будзе. Нам трэба выказаць больш уласнае ініцыятывы ў справе закладаньня родных школаў.

Трэба ўсюды, дзе набярэцца 40 беларускіх дзяцей, якія патрабуюць школьнае навукі, складаць прыгавары аб патрэбе роднай школы.

Трэба прасіць школьныя мясцовыя ўлады аб тым, каб новыя школы былі прыняты ў лік школаў дзяржаўных, дзеля таго, што і мы плацім падаткі таксама, як і кожны грамадзянін іншае нацыянальнасьці, а значыцца маем права на тое, каб і на нашы нацыянальныя патрэбы дзяржаўны скарб рабіў пэўныя расходы.

Калі знойдзецца на месцы які-небудзь вураднік, які бяз дай прычыны пачне перашкаджаць нашым законным дамаганьням школы, дык на яго трэба скардзіцца ці яшчэ лепей напісаць адну тольні шчырую праўду аб гэткім выпадку, нічога ня выдумваючы, ў нашу рэдакцыю, каб можна было падаць гэта да публічнага ведама.

А тады можа быць і блага таму вурадніку, які не захоча спаўняць абавязковага для ўсіх закону.

Калі сам народ спакойна і законна будзе дамагацца свайго права на родную школу, дык проці гэтага ніхто нічога не парадзіць, бо ў Рэспубліцы законнае жаданьне грамадзян павінна задавальняцца дзяржаўнаю адміністрацыяй.

Спакойна, але ўпарта, не шкадуючы энэргіі, мы самі збудуем сваю родную школу, а стогнучы ды чакаючы манны з неба, напэўна нічога лепшага ня зробім.

Момэнт вымагае ад нас больш грамадзянскага пачуцьця, больш веры ў сваю справу і, перш за ўсё, больш ініцыятывы, а рэшта ўсё прыдзе само сабою.

Лёс нашых дзяцей у вялікай меры залежыць ад нашага розуму ды ад нашых уласных трудоў.

Гэта напэўна зразумее кожны беларус сваею простаю сялянскаю натураю.

---

# Палітычны агляд.

Выбарная кампанія ў Англіі адбываецца пры якнайбалей некарысных варунках для рабочай партыі, якая спадзявалася перамагчы на выбарах 29 кастрычніка. Якраз у самую гарачку прадвыбарнай кампаніі ангельскае міністэрства заграмічных справаў апублікавала цікаўнае пісьмо, высланае Макдональдам да савецкага пасла ў Лёндане, Ракоўскага. У гэтым пісьме Макдональд катэгорычна дамагаецца ад Ракоўскага выясьненьняў па поваду інструкцыяў выканаўчага камітэту камуністычнага інтэрнацыяналу, падпісаных Зіноўевым, у якіх апошні заклікае ангельскіх рабочых да актыўнай дзеяльнасьці з мэтамі дзяржаўнага перавароту ў Англіі. А дзеля таго, што трэці камуністычны інтэрнацыянал гэта адно й тое самае, што й савецкі ўрад і істнуе на савецкія грошы, дык, значыцца, гэта дзеяльнасьць Зіноўева не магла прайсьці бяз ведама савецкага ўраду. Дзеля гэтага ангельскі ўрад ускладае ўсю адказнасьць на савецкі ўрад і катэгорычна заяўляе, што ён не дапусьціць гэткага роду ўмяшаньня ўва ўнутраныя справы Англіі з боку іншага ўраду, які знаходзіцца ў прыяцельскіх дыплёматных зносінах. Бальшавікі, ведама, плююць на тое, што іх яшчэ раз злавілі на ўмяшаньні ўва ўнутраныя справы іншай дзяржавы з мэтамі выклікаць рэвалюцыю. Дык-жа гэта галоўная мэта іх істнаваньня. Гэткія дакумэнты няраз выявіліся ў Нямеччыне, Баўгарыі і Амэрыцы. Нямеччына яшчэ ў 1918 г. перад нямецкай рэвалюцыяй пасьля гэткага здарэньня загадала савецкаму паслу ў Бэрліне Іоффэ злажыць свае рэчы і як-га выбрацца за межы Нямеччыны. А Амэрыка, ведаючы, які ёсьць галоўны сэнс бальшавіцкага ладу, зусім ня хоча гутарыць з бальшавікамі. Але гэтым бальшавікі аказалі мядзьведжую ўслугу Макдональду перад выбарамі, які дагэтуль бараніў іх і навет цяпер у выбарнай праграме ангельскай рабочай партыі пытаньне аб ангельска-савецкім дагаворы займае першае месца. Гэтым бальшавікі далі ў рукі праціўнікаў рабочай партыі найлепшае аружжа барацьбы. Яшчэ не пасьпелі ўзмацаваць дружбы з бальшавікамі, а яны ўжо падгатаўляюць пераварот. Што-ж было-б, калі-б быў зацьверджаны ангельска-савецкі дагавор і на яго падставе бальшавікі адтрымалі-б грашавую пазыку? Тады ўсе гэтыя грошы вярнуліся-б ў Англію, як субсыдыі для агітатараў. Консэрватары і лібэралы выстаўляюць гэты матыў, як галоўную прычыну адмовы ўступіць у гандлёвыя зносіны з савецкім урадам. І каб заявы праціўнікаў дагавору з бальшавікамі ня былі галаслоўнымі, дык апошнія пастараліся даць ім у рукі акуратныя дакумэнты, якія даказваюць шкодную дзеяльнасьць савецкага ўраду, які ня лічыцца ні з якімі міжнароднымі законамі, як аб гэтым павінен быў заявіць у сваім пісьме да Ракоўскага іхні прыяцель Макдональд.

У ня менш скандальным палажэньні апынуўся Макдональд і перад Лігай Народаў, дзе ён з гэткім азартам бараніў ідэю раззбраеньня і агульнага міру. Якраз цяпер ангельска-турэцкі конфлікт за Мосуль у Малой Азіі гэтулькі завастрыўся, што, калі Ліга Народаў не знайдзе спосабу здаволіць абедзьве стараны, дык бяз збройнага спатканьня Англіі з Турцыяй не абайдзецца. Гэты конфлікт, як ведама, выйшаў з таго, што Англія самавольна захапіла Мосуль і ня хоча аддаць яго Турцыі. Пры падпісаваньні Лёзанскага мірнага дагаво-

# У С.С.Р.Р.

### Здарэньне з сэкрэтаром Сталіна.

Як паведамляюць з Рыгі, 21-га кастрычніка ў Маскве а 9-ай гадзіне ўвечары на Садовай вуліцы невядомымі людзьмі, быўшымі ў форме міліцыі, быў спынены самаход Сталіна, ў якім ехаў яго сэкрэтар. Нападаўшыя, наставіўшы рэвальвэры на шофэра, змусілі яго зьлезьці з самахода і, пагасіўшы агні, ўцяклі з сэкрэтаром у невядомым кірунку. 22 кастрычніка раніцай сэкрэтар Сталіна зьявіўся у ГПУ і заявіў, што ў яго адабраны важныя дакумэнты, 1.000 амэрыканскіх даляраў, 180 фунтаў штэрлінгаў і 500 чырвонцаў. Невядомыя завязьлі сэкрэтара да чугуначнае станцыі „Сярэбраны Бор", дзе абравідавалі яго і пасьля пусьцілі.

### Лік судовых справаў.

У другой сэсіі ВЦИК,у Маскоўшчыны, камісарам справядлівасьці быў зроблены цікавы даклад аб палажэньні ў судох. Паводлуг словаў камісара справядлівасьці на 1-е студня сёлетняга году ў народных судох 32-х губэрняў Маскоўшчыны было неразгледжаных крымінальных справаў 122.000 і 85.000 справаў цывільных. За прайшоўшае паўгодзьдзе паступіла ў народныя суды 32 губэрняў 441.000 крымінальных справаў і 193.000 цывільных, а на 1-е ліпня 1924 г. засталося неразгледжаных 148.000 крымінальных справаў і 94.000 цывільных. Гэткім чынам, заляжаласьць крыху павялічылася на 10% і мае тэндэнцыю падрастаць.

Цікавая прапазыцыя Курскага аб тым, як зьліквідаваць заляжалыя справы. Ен прапануе перадаваць дробныя справы на разгляд адміністрацыйных органаў дзеля вырашэньня іх у адміністрацыйным парадку.

Ну, проста, хоць уваскрашай, благой памяці, інстытут земскіх начальнікаў!

### Расстрэл жанчыны.

У палове кастрычніка маскоўскім ваенным трыбуналам разглядалася справа фэльчаркі Ількевіч.

Акт абвінавачаньня цьвердзіць, што Ількевіч нібыто працавала для латвійскае тайнае арганізацыі, на чале якое стаяў нейкі Шпон. Па яго даручэньню, Ількевіч нібыто сабрала ведамасьці аб чырвонай арміі, езьдзіла з сакрэтнымі дакумэнтамі ў Лібаву, пасьля адтрымала адказнае даручэньне ад Шпона, якое вымагала таго, каб яна паехала ў Мэмэль. Па дарозе ў Мэмэль, каля мястэчка Дуброўкі, Ількевіч была арыштована і аддана пад суд за шпіёнства на карысьць чужаземнае дзяржавы. Ваенны трыбунал засудзіў Ількевіч на расстрэл.

### Кін і Ян.

„Русспресс" расказвае аб гэткай цікавай гісторыі:

Арыштованы ў 1921 годзе „таварыш Ян", быўшы прэзэс адэскага *губисполкома*, дасюль, як аказалася, сядзіць у вастрозе ў Адэсе. Ен быў арыштованы па распараджэньню зьмяніўшага яго камуніста Кіна, які выясьніў вялізарныя службовыя надужыцьці Яна. Кін распарадзіўся расстраляць Яна, але яго сваякі паведамілі яго, што ў іх ёсьць дакумэнты, якія кампрамітуюць Кіна і даказваюць яго антыбальшавіцкае павядзеньне ў 1919 г. і сувязь з чужаземнымі контр-разьведкамі. Сваякі арыштованага Яна пагражалі Кіну незабаўнаю перадачаю дакумэнтаў прэзэсу адэскае чразвычайкі Рэдэнсу, калі Ян будзе расстрэлены. Кін згадзіўся адмяніць кару сьмерці, але, баючыся апублікаваньня дакумэнтаў або сьпісаньня з іх копіяў, Яна ня звольніў. Рэдэнс, які даведаўся пра ўсю гэтую гісторыю і паехаў з дакладам аб ёй ў Харкаў, быў на харкаўскім вакзале арыштованы і расстрэлены ў той самы вечар. Аказваецца, што зроблена гэта было па трэбаваньню Кіна, які ў характары прэзэса адэскага *губисполкома* падаў харкаўскай радзе народных камісараў аб буйных хабарох, якія браў Рэдэнс за звальненьне „контр-рэвалюцыянэраў" з адэскае чразвычайкі. Толькі нядаўна камісія, назначаная радаю нар. камісараў дзеля абсьледаваньня палажэньня ў адэскіх вастрогах, выпадкова выясьніла, што, пасаджаны ў адзін з казэматаў, арыштант зьяўляецца быўшым прэзэсам адэскага губ. выканаўчага камітэту. Ян перавезены ў Харкаў, куды з Масквы выкліканы й Кін, які ў цяперашні час зьяўляецца сябром ЦИК'у ССРР.

# Жыцьцё провінцыі.

### Смаргоні.

22 верасьня Акружны Суд у Вільні разглядаў справу Янкі Шутовіча, бурмістра мяст. Смаргоні, абвінавачанага ў хабарніцтве. На справу паклікалі ажно 22 сьведкаў.

Суд засудзіў Шутовіча на 3 месяцы вастрогу, але гэтая кара з прычыны амністыі адпала. Кажуць, што Ш. і далей займае сваю пасаду бурмістра.

### Віленска-Троцкі павет.

У вёсцы **Новасады**, Рудзішскай вол., у хату Язэпа Казлоўскага, ўварвалася чатырох азброеных людзей, якія, аграбіўшы яго (грошы і адзежа), ўцяклі ў бок Вільні.

У вёсцы **Буйвіды,** Быстрыцкае вол., начны сторож Язэп Будкевіч, пачуўшы ўночы нейкі падазронны шорхат і гоман у памяшканьні тутэйшай бальніцы, пачаў чапляцца на сьцену, каб праз вакно пабачыць, што робіцца ў сярэдзіне памешканьня. У гэты час старая, спарахнеўшая сьцяна паваліліся і прыдушыла Будкевіча, які праз пару гадзін памёр.

У мяст. **Быстрыца** пачаўся з нявядамай прычыны пажар, у часе якога згарэлі два дамы братоў Бэзданскіх.

### Сьвянцяны.

Уночы з 24 на 25 г. м. у вол. Камайскай, Сьвянцянскага пав., на вяртаўшагася да хаты жыхара вёскі **Ляпейкі** напала чатырох азброеных бандытаў. Ен прабаваў бараніцца, але нічога не памагло: бандыты, схваціўшы яго за рукі, ушчэнт аграбілі ды ўцяклі. Паліцыя, як кажуць, папала на іхнія сьляды.

У вёсцы **Бурды**, Сьвянцянскага пав. і вол., 26 верасьня ў лесе Казімір Сарта пілаваў сасну. Раптам сасна звалілася і сваім цяжарам ударыла Сарту па галаве і забіла на месцы. На другі дзень суседзі знайшлі ў лесе толькі труп.

### Дзісна.

Жыхары станцыі **Зябкі** і ваколічных вёсак у Дзісенскім пав. зьвярнуліся да Ваяводзкага Ураду з просьбай, каб у кожны чацьвер адбываўся рынак, дзеля таго, што цяпер прыходзіцца, каб купіць нешта, езьдзіць за 5 вярстоў да мястэчка Празарокі.

23 верасьня ў вёсцы **Балашынка,** Едзкай вол., згарэла пуня І. Еўдахімава. Страты даходзяць да 400 зл. Думаюць, што прычына пажару — падпал.

22 верасьня ўночы ў фальварку **Гэдымінава**, Мікалаеўскай вол., згарэла пуня са збожжам арандара Адама Парафіяновіча, які быў солтысам і адначасна лясьніком. Думаюць, што пажар пачаўся ад падпалу з прычыны помсты. Страты больш за 1000 зл.

### Лунінецкі працэс.

27-га кастрычніка г. году у **Пінску** пачаўся разгляд над'звычайным (**doraźnym**) судом справы 5-цёх абвінавачаных у бандыцкім нападзе на поезд у ваколіцах Лунінца. Пракурор выклікаў 22-х сьведкаў, абарона — колькі дзесяткоў іх. Разгляд пачаўся чытаньнем акту абвінавачаньня. Падсудныя: Мікіта Клюк, Ян Саўчук, Сава Соц, Кузьма Нарыванчук і Адам Курыловіч да віны ня прызналіся. Першым даваў паказаньні, як сьведка, быўшы ваявода Даўнаровіч, які пазнаў у адным з абвінавачаных бандыта. П. Даўнаровіч заявіў, што ён думае аб заграрічным (савецкім) паходжаньні нападу. У адстаўку быўшы ваявода пайшоў па выразнаму трэбаваньню міністра.

# Навіны у тры радкі.

— На 20.X было ў абегу яшчэ 7 587 мільярд. польскіх марак на 4,2 мільёны злотых.

— 1-га лістапада выпушчаюцца ў абег сярэбраныя монэты ў 2 злотыя— на суму 800.000 зл.

— Амэрыканская паліцыя злавіла шайку, якая на аэроплянах дастаўляла алькоголь з Кубы ў Амэрыку.

— У Бэрліне йдзе конгрэс партыі цэнтру. Есьць прадстаўнікі са ўсяе Нямеччыны і з-за граніцы.

— 28.X у Бедруску каля Пазнані разьбіўся насьмерць авіятар капр. Змуда і паруч. Вайда, ўпаўшы з аэроплянам з вышыні 40 мэтраў.

— Супрацоўнікі ранейшае „Rzeczypospolitej" на чале з пасл. Стронскім выдаюць газэту „Warszawianka".

— Забаронена ўвозіць у Польшчу менскую газэту на жыд. мове „Дэр-Эмі" („Праўда").

— У Харкаве цэлы дзень 17 кастр. йшоў густы сьнег. Раніцай было марозна.

— Лік безработных у Нямеччыне зьменшыўся за 1-ю палову кастрычн. на 40.000 і цяпер роўны 473.000.

— У Камянец-Падольску арыштованы вядомы пятлюравец Хмара. З ім затрыманы яшчэ 7 чал.

— У Кагуле (Бэсарабія) арыштованы савецкі агент, прыехаўшы з Адэсы арганізаваць, як сам ён прызнаўся, паўстанчыя банды.

# АБВЕСТКА

### Настаўнікам пачатковых школаў.

Школьная Камісія Часовай Беларускай Рады гэтым абвяшчае, што, ў зьвязку з адчыненьнем беларускіх школаў, усім зарэестрованым Камісіяй настаўнікам прапануецца: 1) прыслаць свае адукацыйныя дакумэнты і жыцьцярысы; 2) даныя аб тым, дзе магчыма адчыніць школы (ці ёсьць адпаведныя будынкі); 3) сабраць подпісы ня менш як 40 бацькоў, якія аддадуць сваіх дзяцей у беларускія школы; Подпісы павінны быць зацьверджаны солтысам і войтам; 5) якая школа зьяўляецца пажаданаю — чыста-беларуская, ці двухмоўная.

У выпадку, якіх-нібудзь тэхнічных труднасьцяў, ці перашкодаў з боку мясцовае ўлады, незабаўна паведамляць Школьную Камісію па адрэсе: Wilno, ul. Niemiecka, Hotel „Palace", Białoruska Komisja Szkolna.

Вакансіі будуць замяшчацца ў парадку паступленьня заяваў.

**Школьная Камісія Час. Бел. Рады.**

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **Міністар чугунак у Вільні.** У сераду 29. X. пасьпешным поездам прыехаў з Варшавы ў Вільню міністар чугунак п. Тышка дзеля інспэкцыі Віленскае Чугуначнае Дырэкцыі.

= **Расейцы і архіепіскап Хвядос.** З прычыны звальненьня сьвяшчэньнікаў за царкоўныя службы паводлуг старога стылю, тутэйшае расейскае *общество* паслала пісьмо арх. Хвядосу, выказваючы надзею, што пры перамяшчэньнях сьвяшчэньнікаў будуць брацца пад увагу настроі праваслаўнага насяленьня.

= **Дарагоўля.** Па невядомай прычыне, паднята цана на дэнатуроване сьпірт на 7,5 проц. Гэта паўторнае падвышэньне цаны на гэты сьпірт у кастрычніку месяцы.

= **Камісія.** 17, 18, 19 і 20 лістапада адбудзецца ў Вільні паседжаньне конфліктнае камісіі дзеля разгляду спрэчак, паўстаўшых паміж земляўласьнікамі і сябрамі клясавага прафэсыянальнага саюзу сельска-гаспадарчых рабочых.

= **Булкі падаражэлі.** Ад 15-га кастрычніка падняліся цэны на лепшыя гатункі булак на 3,5%.

= **Прызыўныя 1904 году.** Закончаны сьпіскі асобаў, якія радзіліся ў 1904 годзе. Праверка гэтых сьпіскаў працягнецца да палові лістапада.

= **Канфіскацыя „Сялянскай Праўды".** Камісар Ураду на м. Вільню налажыў арышт на № 13 (за 29 кастрычніка) беларускае газэты „Сялянская Праўда" за зьмешчаны ў ёй артыкул, які мае азнакі праступленьня проці 129 арт. Карн. Кодэксу.

# УСЯЧЫНА.

### Кепскі жарт.

У Амэрыканскім гор. Los Angelos, які слыве як кінаматографічнае места, нядаўна нейкі вясёлы чалавек зажартаваў са сваіх грамадзян. Ен даў абвестку ў газэты, што фільмовае прадпрыемства плаціць кожнаму, хто прывядзе сабаку для кіноматографічнага зьнімку, 2 даляры. На другі дзень пад паказаным у абвестцы адрэсам, зьявіліся тысячы людзей, кожны з сабакаю. Пачаўся шум, гоман, сабачы брэх. Людзі пачалі сварыцца між сабой, сабакі грызьціся. Шмат каго з людзей пакусалі сабакі таксама.

### Асла вітаюць з музыкай.

У Пазнанскі зьвярынец прывязьлі з Далёкага Усходу з Тыбэцкіх гор асьліцу „Кіян", якая мелася быць „таварышкай" ранейшага жыхара зьвярынецкага саду „Фрыца". На прывітаньне „гасьця" прыбыло шмат публікі. Граў аркестар 16 палку уланаў.

Рэдактар-Выдавец **Язэп Салавей.**

Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.